# Ад сіняга неба да шэрай зямлі

## Трыццацілетні творчы шлях Натальлі Арсеньневай*)

Ўсё, што у сэрцы жыве і пяе, —
Вершы мае...

Н. Арсеньнева

### ПЕРШЫЯ АКОРДЫ

Як ня любіць мне восень залатую,
Калі праз вопратку асін густую
Тон прабіваецца чырвоны — слаўны тон —
І ў золаце стаіць маўклівы, пышны клён?

Вось першыя мастацкія акорды, зь якімі Натальля Арсеньнева паяўляецца ў нашай літаратуры 30 гадоў таму. Так пачынаецца ейны першы друкаваны і адзін зь першых напісаных наагул вершаў — «Восень».

Гэты абраз маестатычнай у сваёй задумнай красе восені з выноснымі, залітымі золатам і яркаю чырваньню, маўклівымі клёнамі ды асінамі, гэтае выражанае ў вершы захапленьне красою прыроды, зьяўляюцца характэрнымі для першай, пачаткавай пары літаратурнай творчасьці Арсеньневай. Аддаць, адбіць у сваіх творах усю гармонію навакольных хварбаў і гукаў паэтка і ставіць сабе за галоўную мастацкую задачу.

Сонца вясьняныя першыя косы,
Грукат крыніцаў і раньнія росы,
Восені жоўта-чырвонай адцені,
Смуткі зьмярканьня, начы лятуценьні,
Сэрца развагі і сэрца парывы,
Песьні, што ўлетку плывуць панад нівы,
Плач лясуна, карагод русалчыны,
Чары і зводы начное часіны,
Смутнай балотніцы сьмех, прычытаньне,
Роднай старонкі ціхое каханьне,
Усё, што ў сэрцы жыве і пяе, —
Вершы мае...

Такое мастацкае «крэдо» і праграма, якім Арсеньнева пачынае свой першы зборнік вершаў з 1927 г. «Пад сінім небам».

Пра «восені жоўта-чырвонай адцені» ды «сонца вясьняныя першыя косы», пра красу прыроды Беларусі наагул, пэўна-ж, пісалі ў нас і раней нашыя паэты-нашаніўцы. Ды ў іхных апісаньнях цяжка знайсьці той узвышаны, мажорны тон малярскага захапленьня харaством роднае зямлі, як гэта сустракаем у Арсеньневай. Пераважаючы, тыповы для іх, абраз нашай зямлі, гэта бедная краіна з шэраю, няцікаваю прыродаю. Нават і краса ейная апеівалася звычайна з тыповым нашаніўцам сэнтымэнтальным, сьлязьлівым расчуленьнем. Падыход такі склаўся не бяз выдатнага ўплыву ведамага расейскага народніцтва.

Як бачым, у зусім іншыя тоны ўдарае Натальля Арсеньнева з сваіх першых мастацкіх акордаў. Не сьлязьлівая расчуленасьць ды бядавальніцкі сум, а гордае захапленьне з хараства бацькаўшчыны стаюцца аснаўнымі рысамі пясьнярскай творчасьці Арсеньневай. Ня кволы, расчулены пэсымістычны сэнтымэнталізм, а жыцьцярадасны жыцьцёвы аптымізм — лейтматыў мастацкага сьветаадчуваньня паэткі.

Гэтае, у прынцыпе аптымістычнае сусьветаадчуваньне, якое стала пазьней характэрным для ўсей творчасьці пясьняркі, і вызначае для новай паэткі зразу месца не сярод нашых нашаніўцаў, а між пісьменьнікамі новай літаратурнай пары міжваенных гадоў, якая дагэтуль ня мае яшчэ нажаль свайго назову ў гісторыі нашай літаратуры.

Вельмі мала, амаль няма зусім, у першым зборніку вершаў грамадзкіх; у вершах, настраёвых пераважна таксама скарыстаныя вершы-вобразы прыроды. Каля палавіны зборніка займае затое вялікі разьдзел — «Зачараваны кут». У ім памешчана каля дзесяці даўжэйшых вершаваных паэмак — насьледваньняў і перапрацовак народных казак, легэндаў, апавяданьняў у духу Багдановічавай «Старой Беларусі». Самыя назовы гэтых паэмак характэрныя: «Зачараваны кут», «Балотніца», «Плач старога лясуна», «Сны», «Лебядзінае возера» і г. д.

Гэтым разьделам Арсеньнева фактычна складала яшчэ сваю дань папярэдняй літаратурнай пары, якая асабліва любавалася рамантычнаю тэматыкаю з народнай легендарнай творчасьці, народнай міталёгіі, народных казак. Трэба не забывацца, што хросным бацькаю Арсеньневай у літаратурнай галіне быў настаўнік гісторыі беларускай літаратуры ў Віленскай Беларускай Гімназіі, у якой яна вучылася, нашанівец, ведамы пісьменьнік-празаік і першы гісторык нашай літаратуры — Максім Гарэцкі. На ягоныя гэта рукі нясьмела складала свае першыя вершы маладая паэтка. Ад яго яна мела і першае цэннае слова настаўніцкай крытыкі і рады. «Гарэцкі навучыў мяне паважна і крытычна ставіцца да кажнага слова й цаніць мову, ейную чысьціню і прыгажосьць», — кажа сама Арсеньнева.

Першы зборнік спаткаў прыхільна і нашаніўскі крытык Антон Навіна. Ён падчыркнуў высокі мастацкі ўзровень вершаў, хараство апісаньняў прыроды, высокія музыкальныя якасьці, а таксама некаторую замкнёнасьць у сваёй паэтычнай краіне «Фантазыі й хараства, дзе пануе непадзельна музыка гукаў». (А. Навіна: «Адбітае жыцьцё», Вільня 1929.)

Зь літаратурных папярэднікаў на зборніку заўважваюцца выразныя ўплывы ў тэхніцы і падборы тэматыкі нашаніўскага нашага майстры формы, «пясьняра чыстай красы», другога Максіма — Багдановіча. Пад выразным ягоным уплывам паўстаў перадусім цэлы апошні разьдзел зборніка — «Зачараваны кут». Але і тут адчуваецца пругкая індывідуальнасьць маладой паэткі, якая шукае й пракладае свае арыгінальныя шляхі ў афармленьні таго самага народнага легендарнага матар'ялу.

### ГАДЫ ПРАЦЫ, РОСТУ І — АДЗІНОТЫ

Гімназыяльныя й першыя пасьлягімназыяльныя гады плоднай літаратурнай працы, вынікам якіх і быў першы зборнік «Пад сінім небам», хутка аднак абрываюцца. «Хроснага бацьку», Гарэцкага, за актыўную нацыянальную дзейнасьць палякі выкідаюць за межы свайго «моцарства». З другой стараны сам ход жыцьця кладзе ўсё большыя, ды зусім не літаратурныя, задачы і вымаганьні. У 1922 г. пясьнярка выходзіць замуж. Два гады пазьней яна ўжо маці двух сыноў.

Другая, вельмі няспрыяючая творчасьці рэч, — пясьнярка жыцьцёва-палітычнымі абставінамі змушаная пакінуць Вільню — культурна-нацыянальны цэнтр усяго духовага жыцьця Заходняй Беларусі. А да Вільні яна была моцна прывязаная ад дзён свайго маленства. Аб гэтай «крывіцкай Мэццы» — кажучы словамі Жылкі — вось што гавора нам сама пясьнярка: «Вільню я лічу сваёй запраўднай бацькаўшчынай, бо толькі тут я пачала памятаваць сябе, пачала жыць сьведамым жыцьцём; тут я вырасла, вучылася, пазнала добрае й благое, і гора, і радасьць. Вільню я люблю і па ёй толькі сумую». У вершы «Вечар у Вільні» («Сягоньня»), пісаным у самой Вільні ўжо ў 1944 г., знайходзім і такія шматгаворачыя радкі:

Манюся тут сваю апошнюю зару
Я сустракаць, адсюль — пайсьці адвечным шляхам.



І вось гэтую каханую Вільню даводзіцца кідаць, спачатку для малога Слоніма, а пазьней, ад 1924 г., праз цэлых 13 гадоў даводзіцца ўжо жыць далёка ня толькі ад Вільні, але й ад беларускай зямлі наагул, на польскім Памор'і. Праз усе гэтыя гады толькі летняю звычайна парою ды накоратка, удаецца пясьнярцы вырвацца ў Беларусь, каб наведаць мужаву бацькавіну ў Дорах (Валожыншчына) ды пераездам глянуць вокам і на сваю Вільню. Адарванасьць ад Вільні, ад беларускай зямлі і беларускага асяродзьдзя, а перадусім ад беларускага, хаця і сьціплага, літаратурнага жыцьця, кладзе сваё выразнае таўро на далейшую літаратурную творчасьць Арсеньневай.

Беларускае культурна-нацыянальнае жыцьцё ў Заходняй Беларусі паддаецца тымчасам усё ўзрастаючаму асыміляцыйнаму ціску Варшавы. Друк, прэса, душаныя безаглядною паліцыйнаю рукою польскай адміністрацыі ледзь дыхае. Літаратурных часапісаў ды выданьняў замала, каб праз іх можна было ўтрымаць нейкую жывейшую лучнасьць. І маладая пісьменьніца астаецца сама на адзіноце, далёка ад усіх, зданая на свае жаночыя сілы. Па некаторым часе адчуваецца ўжо значнае памяншэньне літаратурнай «прадукцыі», хаця пясьнярка й намагаецца ўвесь час пісаць, намагаецца красьці час і сілы ад хатніх, сямейных абавязкаў. Асабліва мала плодныя гады 1928—34.

Ды ўсё-ж і праз гэтыя гады адчуваецца выдатны рост. Хаця вершы й нешматлікія, але яны на значна вышэйшым тэхнічным узроўні, як вершы першага зборніка. Тэматыка ў васнаўным і далей астаецца тая самая, але мастацкае афармленьне значна дасканаліцца, стае ўжо ўсё часьцей беззаганным, бездакорным. Цяпер паэтка ўжо свабодна гаспадарыць мастацка-тэхнічнымі прыёмамі вершаваньня, фармальных зрываў у ёй ужо ня сустрэць. Кажны верш кіданы свобдна і пэўна ў рытмы, разьмеры, задуманай мастацкай кампазыцыі, усё багацейшай вобразнасьці. У вершы чуецца няпрымушаная натуральная музыкальная суладнасьць. Пясьнярка выразна перарастае з «пачынаючай» у «дасьпелую».

У палавіне трыццатых гадоў літаратурны фронт Заходняй Беларусі неспадзеўкі значна ажыўляецца. Раптоўным, яркім мэтэорам на моцна захмараным палітычным небасхоне загараецца нязштодзенны талент Максіма Танка. Новы падыход да тэй-жа самай нацыянальна-вызваленчай тэматыкі, буйная мэтафарычная вобразнасьць паэтычнай мовы, багацьця новых тэхнічна-мастацкіх прыёмаў, нетарнаваных дагэтуль іншымі пісьменьнікамі Заходняй Беларусі, робіць адразу вялікае ўражаньне як на чытача, так і на самых пісьменьнікаў. Танк, гэта была быццам моцная струя сьвежага паветра, што значна ажывіла заметны ўжо застой на літаратурным фроньце Заходняй Беларусі. Пад ягоным уплывам пераглядаюць крытычна ўсю сваю дасюлешнюю творчасьць і сваё старое тэхнічна-мастацкае аснашчэньне Міхась Машара (хаця-б цыкль «Краіна сініх балот»), Міхась Васілёк («З пад стрэх саламяных»), Хведар Ільяшэвіч («Захварбаваныя вершы»). Усе перастрайваюць струны на новы лад. Не астаецца бяз гэтага асьвяжаючага, творчага ўплыву й Арсеньнева.

У выніку сутыку з творчасьцяю гэтага трэцяга Максіма свайго пясьнярскага жыцьця, паэтка ажывае, актывізуецца, пачынае ізноў пісаць верш за вершам і ўжо за год (1937) зьбіраецца цэлы новы зборнік — «Жоўтая восень». Усе бадай вершы гэтага зборніка друкаваліся па розных часапісах Заходняй Беларусі, але асобнаю кнігаю, дзеля матар'яльных перашкодаў выйсьці яму так і не ўдалося.

### «ЖОЎТАЯ ВОСЕНЬ»

Новы зборнік вершаў з мастацкага гледзішча вялізарны крок наперад. Па тэматыцы гэта далейшы працяг першых, прыродаапісальных, разьдзелаў «Пад сінім небам». Мажорныя малярскія вобразы роднай прыроды пераважаюць над усім.

З зборніка цалком зьнікае рамантычны разьдзел народных пераказаў і легендаў, хаця некалькі іх праз гэты час і было яшчэ напісана. Пашыраецца затое тэматыка ў іншым кірунку. Пясьнярка пачынае асьмельвацца выглядаць з «васільковых палёў» ды «пушчы залатой» і ў места, у «горад празаічны», зь ягонай сваясаблівай, зусім адменнай яркай красой ды нэрвовым рытмам жыцьця. Гэтая проба неспадзеўкі дае вельмі добрыя рэзультаты. Чуйкая мастацкая вобразнасьць лёгка ўхапліваe адменны рытм меставога пэйзажу, а высокая ўжо мастацкая тэхніка без натугаў ператалівае гэты новы ў дасюлешняй творчасьці сьвет у сваім паэтычным гарне, ды дае нам творы першараднай мастацкай якасьці (напр. «Места», «Месячнай ноччу», «Паралель»).

З тэматычнага гледзішча кідаецца ў вочы адна асаблівасьць: амаль трэцяя частка вершаў зборніка прысьвечаная восені. Гэты факт падчырківаецца й самым загалоўкам зборніка. Як ведама, сваю мастацкую кар'еру пясьнярка таксама пачала вершамі аб восені ды ў

(Прадаўжэньне на 5 балоне)

*) Рэфэрат чытаны на вечары, ладжаным Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва ў Нью Ёрку 15 сакавіка с. г., для адзначэньня трыццацілецьця літаратурнай творчасьці Натальлі Арсеньневай.

---

Калі Кандрата разьбіралі).
Прыехаў з маткаю старою,
Якую зваў часьцей савою.
Худы, высокі, сухарлявы,
Для ўсіх жаданы і цікавы,
Ўвайшоў Кандрат і павітаўся
І пра здароўе распытаўся.
Дарота, Пальчыха старая,
Таксама хлебам дом вітае —
Такі ўжо звычай беларускі, —
У клумку выпіўка, закускі.
Калі ўсе госьці пазьбіраліcь,
Антось з Кандратам пажагналіcь,
Ўзялі і ночвы і куродым.
— Ну, памажы, сьвяты Мікодым!...
Куды ты лезеш? вось дурная! —
Кандрат з пчалою размаўляе;
А пчолка, нібы ў павуціне,
Ў яго заблыталась шчаціне.
Злавіў пчалу і адкідае,
Даўжніх павольненька выймае,
— Ах, вы гультайкі! плястры голы,
Хоць вы даўно старыя пчолы...
Дай дыму ім! дай, дай ім дыму!...
Га, трохі ёсьць! давайце выму,
Кандрат дзялянкі падразае
І крэхча, бедны, і пацее,
Пчала ад дыму бы п'янее,
Ў галовы далей запаўзае.
— Насілі, бедныя, зьбіралі,
А мы ў мінуту ўсё забралі, —
Тут пчолкам шчыра спагадаюць
Ды новы вулей падглядаюць,
Пакуль усіх ня перабралі
І ночвы мёду не набралі.
Гудуць пакрыўджаныя пчолкі,
Бы плачуць, бедныя саколкі,
Што праца іх неспадзявана
Людзкою хцівасьцю забрана.
Прынеслі ночвы мёду ў хату.
На долю выпала Кандрату
Дзяліць мёд гэты між кумамі,
Жанкі ідуць сюды з збанамі.
Тут сьмех і жарты, таўканіна, —
Найцікавейшая часіна!
І стол тымчасам накрываюць,
Гасьцей шумлівых запрашаюць,
Садзяцца госьці, ды ня зразу,
За стол ня лезуць для паказу,
Бо так шляхотнасьць вымагае.
Ідзе тут спрэчка не малая,
Калі пачнуць тут адмаўляцца:
— Сядай Язэп! — Няхай садзяцца,
А я прыткнуся потым з краю.
— Ах, вось, дзіўны!.. — Ну, ну сядаю!
— Пан Фабіян і ты, Кандраце,
Яхім і Ян, і Юрка — браце!
Ну, проша-ж, проша! — Пасадзілі,
Такім-жа чынам упрасілі
Жанок прысесьці тут на ўслоне.
Антось у ход пусьціў далоні
І коркі спрытна выбівае —
Так што зьдзіўленьне выклікае.
Крыніцы бурнага натхненьня,
Мінут вясёлых, ажыўленьня,
Стаяць, як біскупы, бутэлі,
І ласа ўсе на іх глядзелі.
Ляжыць гарамі ў іх падножжы
Закуска — гэта міласьць Божа:
Тут сыр, як першы сьнег бялюткі,
Каўбас прыемнейшыя скруткі,
Што толькі ёсьць на Беларусі.
А масла!.. Не! маўчу, баюся
У час пайковай суяты
Дражніць пустыя жываты.
Мой мілы Янка, мой Купала!
Ў вагульны вір нас доля ўгнала.
Чаму-ж, чаму часінай тою
Мы не спаткаліся з табою,
Каб стол сялянскага банкету
Разьвесяліў душу паэту?
Міхал тут чарку налівае.
— Ну да каго-ж мне піць? — пытае,
Гасьцей абводзячы ачыма.
— Пускай з канца, пачні зь Яхіма.
— Ну, кум Яхім, стары дружака!
Няхай міне нас гора ўсяка;
Дай, Божа, добрую прыгоду,
Каб больш на лета было мёду;
Каб мы пілі, яшчэ прасілі,
Каб на галовах захадзілі,
Дык будзь здароў! — Ну, дай-жа, Божа!
— За ваша, госьцейкі, здароўе! —
І посьле гэтага прыслоўя
Міхал куляе чарку гожа;
Глынуў і губы абцірае,
Яхіму чарку налівае,
І з рук у рукі ходзіць чарка,
Шаломіць голавы ім шпарка,
І госьці што раз весялеюць,
І больш іх твары чырванеюць,
А голас крэпне і дужае,
І сьмех гаворку аздабляе.
Для ўсіх ласкава і пачціва,
Як-бы пад ветрам тая ніва,
Гасьцей частуе гаспадыня,
І на ўсіх чыста вокам кіне,
То сыр, то масла ім падносіць
І закусіць так шчыра просіць:
— Ну закусеце-ж, калі ласка!
Вось проша сыру, проша мяска,
Ці кумпячка або каўбаскі,
Ну, пірага хоць закаштуйце!
Барэце масла, не шкадуйце! —
Бутэлька выпіта; другая,
Як бачыш, месца заступае,
А госьці вокрыкам зьдзіўленьня
Яе вітаюць тут зьяўленьне.
Жанкі таксама балявалі
І ад мужчын не адставалі,
Але ад іх адмежаваліcь —
Сваёй гарэлкай частаваліcь.
Гарэлка-ж іх тым адразьнялась,
Што ў бутлі слодыч дадавалась.
І вось зірнуць было цікава,
Як у жанок вялася бава,
І колькі мілых было сварак,
Як адмаўляліся ад чарак!
— Ну, проша-ж, пані Юзафова!
— Ой, не, не, кумка, даю слова!
Зусім я п'яна, бойся Бога!
— Ну, выпі-ж, кумачка, нічога! —
Кума на просьбу паддаецца,
За чарку тройчы ўжо бярэцца
І толькі, толькі прыгубляе
І чаркі зноў не дапівае
І руку цягне да бутэлькі.
— Ня дам, кума! ня дам, Анелька!
(Бо ўжо так звычай вымагае:
Хто чарку п'е, той налівае).
Ну, выпі-ж чысьценька-чысьцютка!
— Ой, я-ж п'янею вельмі хутка!
Язэп мой лысы, вунь сярдуе! —
Куму Анелька тут цалуе
І адмаўляньне тым канчае,
Што гэту чарку асушае.
І вось жанчыны ня стрывалі
І песьню-кпіну засьпявалі,
Каб пасьмяяцца зь нежанатых:
З Антося, Яські і Кандрата.
«Сядзіць дома, як пужала,
Не зь кім слова мовіць;
Ой, жаніся-ж: часу мала,
Старасьць цябе зловіць!
Пастарэеш, небарака,
Дзеўкі ўсе зракуцца,
А ты будзеш, як сабака,
Туляцца і гнуцца,
І падлізваць будзеш місы,
Не свае — чужыя!..
Дык жаніся, Кандрат льсы,
Жанецесь, дурныя!»
— Ну, зацягнулі ўжо, завылі!
Адно-б вы толькі і жанілі!

